


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

17 жніўня 2001 года
№ 33 (330)
Выходзіць па пятніцах

TV плюс

## Навіны рэгіёна

### Еўропа прыйдзе па пошце

**МАЛАДЗЕЧНА.** У раённым вузле паштовай сувязі з'явіўся новы від паслуг. Па каталогах розных замежных фірмаў (як "Otto", "Quelle") можна зрабіць заказ на любую рэч з прадастаўленага асартыменту. Паслуга каштуе 15% ад кошту тавару. Тэрмін выканання – на працягу 1 месяца.

Пакуль што новую паслугу маладзечанцы не спяшаюцца скарыстаць.

**Ірына РАБУШКА.**

### Паліцэйскія і «Віцязь»

**СМАРГОНЬ.** Напрыканцы жніўня райцэнтр наведаюць міліцыянеры з васьмі памежных раёнаў Гродзеншчыны і пяць каманд паліцыі з Літвы. Апошнія прадстаўляюць памежжа і Галоўны камісарыят паліцыі Вільнюса.

Усе возьмуць удзел у спартакіядзе праваахоўных органаў Беларусі і Літвы "Дружба". Праграма спаборніцтваў уключае перацягванне каната, стральбу з табельнай зброі, міні-футбол і іншае. Каманда-пераможца атрымае ў падарунак тэлевізар "Віцязь".

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Астраўчане з Ашмянаў

**АСТРАВЕЦ.** Ад пачатку лета ў аддзяленнях Астравецкай райбальніцы ідзе рамонт. Хворым людзям даводзіцца мець пэўныя нязручнасці, бо, калі фарбуюць вокны і дзверы ў адной палаце, то людзей пераводзяць у суседнія. Зусім нядаўна пачаўся рамонт і ў радзільным аддзяленні. Цяпер жанчын, што павінны нарадзіць, возяць у суседнія Ашмяны.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Эротыка на Нарачы

**МЯДЗЕЛ.** Нядаўна ў курортным пасёлку Нарач адкрылася кафэ-бар «Купа». У пятніцу і суботу там ідзе шоу-праграма, часта – эратычная. А ў астатнія дні – дыскатэка. На дыскатэку білет каштуе 8 тысяч рублёў (уключаны заказ на 5 тысяч). На эротыку, натуральна, даражэй. Але наведвальнікаў хапае.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### 1 верасня ўбачым помнік Агінскаму

**МАЛАДЗЕЧНА.** Будаўніцтва і размяшчэнне помніка Агінскаму падыходзіць да завяршэння. Дырэктар музвучылішча **Рыгор Сарока** расказаў, што помнік ужо знаходзіцца ў Маладзечне. На гэтым тыдні ўсталявалі пліту для пастамента. Святочнае адкрыццё прыпадае на 1 верасня.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**



**На здымку: амерыканскі прадпрымальнік і мільянер Барыс (злева) прыехаў у Маладзечна па запрашэнні свайго даўняга знаёмага дырэктара музвучылішча Рыгора Сарокі (справа).**

Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

### Адмена электрацягнікоў

У сувязі з правядзеннем пуцявых работ **17 жніўня** адмяняюцца электрацягнікі: адпраўленнем з Маладзечна ў 14.55 і прыбыццём з Мінска ў 14.12.

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 18 жніўня

| Мінск | Вільня |
|---|---|
| 16 – 17°С (уначы) 28 – 29°С (удзень) | 16°С (уначы) 30°С (удзень) |

Нядзеля, 19 жніўня

| Мінск | Вільня |
|---|---|
| 14 – 17°С (уначы) 28 – 29°С (удзень) | 17°С (уначы) 29°С (удзень) |

# Вілейка рыхтуецца да прыезду Лукашэнкі



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА

**Прыбіраецца тэрыторыя, прылеглая да "Зеніта".**

22-га жніўня ў раённы цэнтр чакаецца прыезд **Аляксандра Лукашэнкі**. Мяркуецца, што ён "запаліць факел" – прыме ўдзел у падключэнні горада да газаправода, наведае завод "Зеніт".

Задоўга да гэтага работнікі буйнейшага прадпрыемства горада – завода "Зеніт" – пачалі шчыраваць на ўборцы прылеглай тэрыторыі. У надзвычайным рэжыме працуюць і камунальшчыкі. Упершыню за шмат год многія завадчане атрымалі грашовую дапамогу на набыццё агародніны, што яны звязваюць з прыездам Лукашэнкі.

У горадзе на працягу апошніх гадоў адсутнічае гарачая вада, заробкі на "Зеніце" – адныя з самых нізкіх у рэгіёне, камунальная гаспадарка амаль развалілася, але "падарунак" у выглядзе газавага факела, мабыць, павінен "падсаладзіць" настрой віляйчан.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

### Чыгуначны прыпынак дабудуюць

**МАЛАДЗЕЧНА. Работы па будаўніцтве чыгуначнага прыпынку ля шостага мікрараёна не спыняюцца.**

Дырэктар ААТ "Будаўнік-197" **Пётр Сянько** па-ранейшым спадзяецца, што 1 верасня адкрыюць прыпынак.

– Галоўнае, каб давалі "вокны" у раскладзе руху электрычак, – лічыць ён.

Учора ў горад (і на аб'ект) прыязджаў начальнік Беларускай чыгункі **Віктар Рахманько**. Зразумела, візіт чыноўніка надвор'я не зробіць. Хаця спачуванне неба, якое апошнім часам не вельмі лагоднае, вельмі патрэбнае.

Чыгуначны вакзал да работы на «Фестывальным» падрыхтаваны. Хутчэй за ўсё, там будуць працаваць 6 касіраў.

Закрыццё прыпыначнага пункта ў Селівонаўцы пакуль не плануецца.

**Вольга КАСЯКОВА.**

■ ХРОНІКА ПАМЕЖЖА

### Трынаццаць – лічба лёсавая

**АСТРАВЕЦ. Па меры таго, як у лясах з'яўляюцца грыбы і ягады, большае парушальнікаў мяжы.**

У аснойным, літоўскія грамадзяне ў пошуках грыбоў не заўважаюць, як пераходзяць дзяржаўную мяжу. На мінулым тыдні такіх "грыбнікоў" было 13. Усе яны пакараныя судом у адміністрацыйным парадку.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

Экспрэс-апытанне ашмянцаў

# Хто самы вядомы ў Ашмянах?



**Іосіф Матулевіч, таваразнаўца:**

– На гэты момант вылучыць нікога не магу. А раней працаваў тут вельмі разумны і ўважлівы чалавек – **Уладзімір Яфімчык**, былы начальнік мытні і старшыня райвыканкома.



**Валянціна Маліноўская, прадавец:**

– Напэўна, крыху раней такой была сям'я **Дзецярэнкаў**. Асабліва ён надаваў шмат увагі дапраўпарадкаванню горада. У яго час паставілі ў парку арэлі. Цяпер сям'я жыве ў Гродне.



**Ірына Паўлоўская, абітурыент:**

– **Алена Калыбіна**, працавала раней у культурнай сферы. Яна ў свой час мне дапамагала, калі я ў яе займалася. Вельмі добры чалавек.



**Міхаіл Мышчык, навучэнец:**

– **Лідзія Мурашка**, дырэктар сельскагаспадарчага тэхнікума. Яна інтэлігентная і дзелавая жанчына. Знаёмая з шырокім колам людзей.



**Дзіма Вяжэвіч, навучэнец СПТВ:**

– Навучэнец ПТВ-1902, 16-гадовы **Рома Паўлоўскі**. Чаму? Таму што нармальны ён.



**Галіна Бернат, загадчыца магазіна:**

– Лічу, што **Вітольд Кудырка**, старшыня выканкома. Да яго ўсе ідуць вырашаць свае пытанні.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Мікалай ХАДАСЕВІЧ і Юрый КАРПІЦКІ.**

# Бацька гасцінічнага гадзінніка

**МАЛАДЗЕЧНА. У 90-я гады аблічча горада істотна змянілася. Не апошнюю ролю адыгралі прыгожа аформленыя шыльды і фасады банкаў, магазінаў, навучальных устаноў. Да многіх выяў, што добра ведаюць не толькі ў Маладзечне, але і ў краіне, спрычыніўся мастак-дызайнер Сяргей Пятроў.**

Нарадзіўся ён у 1954 годзе ў горадзе Сергіеў-Пасад (Расія). У 1973 годзе скончыў Мінскае мастацкае вучылішча, прадоўжыў вучобу ў тэатральна-мастацкім інстытуце. У 1978 годзе бярэ ўдзел у выстаўках Беларусі і Расіі, а таксама па-за межамі СССР – у Швейцарыі. У 1965 годзе атрымаў дыплом III ступені ў Рэспубліканскім конкурсе на лепшую эмблему беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

Напачатку 1988 года С. Пятрова прынялі ў Беларускі саюз дызайнераў. Сярод асноўных яго дызайнерскіх распрацовак былі мабільная радыёстанцыя "Алтай АС-3С", аўтамабільныя прыёмнікі "Тапар РП 303А" і "Тапар РП-201А", Мае аўтарскае пасведчанне на "Спосаб вырабу аб'ёмных дэкаратыўных вырабаў з ліцейных металаў" і на прамысловы ўзор "Магнітола аўтамабільнага стэрэафона". Яго распрацоўкі былі апублікаваныя ў часопісе "Изобретатель і рационализатор", а таксама ў дадатку да часопіса "Юный техник". Ён можа распрацаваць фірменны стыль, займаецца вонкавай рэкламай і дызайнам інтэр'ерам.

Маладзечанцы (ды і госці горада) звярталі ўвагу на мясцовы "Біг-Бэн", што на гасцініцы "Маладзечна". Вялізны гадзіннік Пятроў падарыў гораду да яго 600-годдзя. Дапамагалі рэалізаваць ідэю гадзіннікавыя заводы Мінска, Ерэвана і прадпрыемствы Маладзечна.

Жывучы ў Маладзечне, ён шмат робіць для таго, каб горад быў прыгажэйшы. Яго рукамі створаныя распрацоўка сцэны і фае, фасад музычнага вучылішча, вынікі работы майстра можна ўбачыць у афармленні многіх банкаў, мастацкай школы, у эмблемах "Дыліс-касметык", "ХайБела", завода "Спадарожнік". Ва ўсёй краіне ведаюць яго распрацоўкі да маладзечанскіх фестываляў песні і паэзіі.

Пайшоў па бацькавым шляху і старэйшы сын Дзмітрый.

– Пасля заканчэння вучобы ў Мінскім інстытуце культуры ён дапамагае мне, – гаворыць С. Пятроў. – Чытачы, напэўна, памятаюць эмблему, прысвечаную 610-годдзю Маладзечна – выяву галінкі папараці, якую распрацаваў мой сын, а таксама эмблему футбольнага клуба "Маладзечна".


Фота Яўгена СТАЛЬМАХА.
Мастак-дызайнер Сяргей Пятроў.

**– Над чым вы працавалі ў апошні час?**

– На адкрыццё мінулага абласнога кірмашу я падрыхтаваў герб Маладзечна, перанесены на метал.

**– Ад каго вы звычайна атрымліваеце заказы?**

– Заказы найчасцей паступаюць ад прыватных асоб. Прадпрыемствы імкнуцца абыходзіцца сваімі сіламі, што не заўсёды ідзе на карысць.

**– Што ў бліжэйшых планах?**

– Мяркую падрыхтаваць выстаўку. І хачу скончыць аддзелачныя работы ў новай майстэрні. Мы зусім нядаўна сюды перасяліліся. Ужо цяпер заканчваю канцэпцыю да фестываля "Маладзечна-2002".

Сяргей Пятроў не надта любіць расказваць пра сябе. Ён лічыць, што лепш за ўсё пра яго распавядае ягоная работа.

**Ганна СЯНЬКО.**

■ ЖНІВО-2001

## П'юць механізатары і вадзіцелі

**СМАРГОНЬ. На мінулым тыдні ў рамках аперацыі "Аграрнік" работнікі міліцыі затрымалі некалькі калгаснікаў. Яны былі ў нецвярозым стане на сваіх рабочых месцах.**

У калгасе "Праўда" двое механізатараў добра падпілі ўжо аб 11-й гадзіне раніцы. Нецвярозы вадзіцель перавозіў ураджай "в закрома Родины" ў калгасе "Савецкая Беларусь". Трапіліся і работнікі калгаса "Светлы шлях". Асноўны шлях здабычы спіртнога – продаж "на старону" саляркі і бензіну.

**Тарэса КУМІШЧА.**

■ ЭКАЛОГІЯ

## Людзі шкодзяць зямлі

**МАЛАДЗЕЧНА. У Інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы наваколля паведамілі, што з пачатку года ўжо зарэгістравана больш за 50 выпадкаў забруджвання глебы людзьмі.**

Па артыкуле №53 (урон для зямлі) усе парушальнікі пакараныя і заплацілі штраф, агульная сума якога склала больш за паўмільёна рублёў.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ НОВАЕ

## Банк у бібліятэцы

**АСТРАВЕЦ. Цэнтральная раённая бібліятэка папоўнілася эталонным банкам дадзеных прававой інфармацыі РБ.**

Яго камп'ютэрны варыянт складаецца з рэгістрацыйных карт і тэкстаў прававых актаў у дзеючай рэдакцыі. Гэта больш за 25 тысяч дакументаў, якія ўключаюць у сябе ўсё заканадаўства РБ, міжнародныя дамовы і рашэнні мясцовых органаў самакіравання.

Карыстацца новай сістэмай могуць усе жыхары раёна.

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**

■ СУВЯЗІ

## Мядзяльчане едуць у Германію

**МЯДЗЕЛ. У аўторак дэлегацыя мядзяльчан накіравалася ў Германію, у абшчыну Хюльхорст.**

Паміж раёнам і гэтай мясцовасцю Нямеччыны існуюць даўнія сяброўскія сувязі. Пасхалі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці, валейбалісты, некалькі сем'яў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ МЕДЫЦЫНА

## Папаўненне з Маладзечна

**ВАЛОЖЫН. Сёлета сям'ю медыкаў Валожыншчыны папоўнілі 12 медсясцёр.**

Асноўны пастаўшчык кадраў – Маладзечанскае медвучылішча, якое скончылі 10 чалавек. Палова навічкоў працаўладкавалася ў раённай бальніцы. Астатнія паехалі ў іншыя населеныя пункты раёна.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ ВЫСТАЎКІ

## Выстаўка адкрывае мастака

**МАЛАДЗЕЧНА. 13 жніўня Цэнтральная бібліятэка сустрэла мастака і музыканта Аляксандра Іванова – ганаровага грамадзяніна Смаргоні. Гэтага звання ён удастоены менавіта за творчасць.**

У 1971 годзе Аляксандр паступіў у Астраханскае (дзе жыў тады) мастацкае вучылішча. Самастойна вучыўся іграць на розных музычных інструментах, ствараў уласныя кампазіцыі. Дарога жыцця прывяла яго ў Беларусь. Тут А. Іваноў скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут.


Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.
**Мастак і кампазітар Аляксандр Іваноў на адкрыцці сваёй выстаўкі ў Маладзечанскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы.**

У 33 гады мастак у выніку цяжкай хваробы апынуўся прыкаваны да інвалідных каляскі. Але дапамагла ў жыцці творчасць. За 12 год больш за 500 работ выйшла з-пад пэндзля мастака. Па 14–16 гадзін ён трымае яго ў зубах, бо пазбаўлены магчымасці рабіць нешта рукамі.

Калі сілы пакідалі, ствараў ужо кампазітар. Да таго часу, пакуль не пачынаў "хмурыцца" ад адзіноты ягоны пэндзаль. Любоў да музыкі звяла Аляксандра з "Беларускімі песнярамі". Ён удала аздабляе дыскі групы.

На выстаўцы, што працягнецца да 5 верасня, экспануюцца новыя работы А. Іванова.

**Вольга КАСЯКОВА.**

■ АХОВА ПРАЦЫ

## Статыстыка паўгоддзя

**МАЛАДЗЕЧНА. За I паўгоддзе ў раёне адбыліся 23 няшчасныя выпадкі на вытворчасці (у тым ліку, адзін са смяротным і адзін з цяжкім зыходамі), якія знаходзяцца ў стадыі расследавання.**

Адбыўся 1 смяротны няшчасны выпадак на РУП "Баластны кар'ер Радашковічы" Беларускай чыгункі. Вадзіцель зрабіў наезд на драбільшчыка і смяротна яго траўміраваў. Узбуджаная крымінальная справа.

У красавіку адбылося дарожна-транспартнае здарэнне з вадзіцелем РУП "Маладзечанскае АТП" за межамі РБ у Пскоўскай вобласці. Яно прывяло да цяжкага няшчаснага выпадку. Расследаванне выпадку праводзіць РФ. Матэрыялы ў інспекцыю працы пакуль не паступалі.

**Вера СУМІНА,**
**дзяржінспектар працы.**

■ ЖЫЛЛЁ

## Згарэлае будуць аднаўляць

**МАЛАДЗЕЧНА. Пачалося аднаўленне згарэлага жылога дома па вуліцы Паркавай.**

Першы этап – будоўля даху. Ім займаецца ААТ "Будаўнік-197". Аддзелачныя работы заказчык – чыгунка – будзе праводзіць сваімі сіламі.

Тэрмін заканчэння работ – на працягу месяца. Рабочыя гавораць, што першапачаткова іх нацэльвалі на 1 верасня, але з-за праблемаў з будматэрыяламі ў гэты тэрмін цяжка будзе ўкласціся.

Дырэктар ААТ "Будаўнік-197" Пётр Сянько заўважае, што дах будуецца па ўласных распрацоўках, бо праектнай дакументацыі на дах заказчык не прадаставіў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Перавярнулася легкавушка

**СМАРГОНЬ. У ноч з пятніцы на суботу каля вёскі Солы перавярнуўся аўтамабіль "ВАЗ-2103".**

Здарэнне адбылося ў гадзіну зночы. П'яны вадзіцель не справіўся з кіраваннем. Адзін чалавек загінуў, а шафёр і другі пасажыр атрымалі цялесныя пашкоджанні. Аўтамабіль рамонту не належыць.

**Ірына БРАЛКОЎСКАЯ.**

## Чатыры трупы на дарозе

**СМАРГОНЬ. Чатыры чалавекі загінулі на мінулым тыдні ў выніку аварыі недалёка ад Вішнева.**

Кампанія з шасці маладых людзей адпачывала на возеры Свір. Па дарозе дадому машына "Фольксваген-Гольф" урэзалася ў трубу меліярацыйнай сістэмы на хуткасці 160 кіламетраў у гадзіну. Тры чалавекі загінулі на месцы, адзін памер на аперацыйным стале. Астатнія двое знаходзяцца ў цяжкім стане. У вадзіцеля машыны зламаны пазваночнік, ён амаль цалкам паралізаваны.

**Тарэса КУМІШЧА.**

## Вадзіцелі бываюць розныя

**АСТРАВЕЦ. На мінулым тыдні на Астравеччыне супрацоўнікі аддзела ДАІ і асобнага батальёна дарожна-патрульнай службы УУС Гродзенскага аблвыканкома праводзілі рэйд.**

На мэце ставілася выявіць п'яных вадзіцеляў. За дзве з паловай гадзіны гродзенскія даішнікі выявілі 10 кіроўцаў "пад мухай". Апошнія параўніталіся з вадзіцельскімі пасведчаннямі.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**




## Чытаем «РГ»

Вы любіце сустракацца па пятніцах з нашай газетай? Зрабіце гэтыя сустрэчы рэгулярнымі – падпішыцеся на "Рэгіянальную" ў любым паштовым аддзяленні. Незалежны погляд на жыццё нашага краю, цікавыя публікацыі па гісторыі, эканоміцы, спорце, займальныя забаўкі і крыжаванкі, каляровая праграма тэлебачання – усё гэта вы знойдзеце, калі разгорнеце "Рэгіянальную газету".

**Рэдакцыя «РГ».**

**Індывідуальная падпіска** *індэкс 63212*
**1 мес. –** 785 руб.

**Ведамасная падпіска (з улікам ПДВ)** *індэкс 63369*
**1 мес. –** 3328 руб.

■ ІМЯНІНЫ

**17 жніўня**
**Праваслаўныя**: Еўдакіі, Дзяніса, Івана, Канстанціна.
**Каталіцкія**: Юльяны, Мірона, Роберта, Яцка.

**18 жніўня**
**Праваслаўныя**: Ноны.
**Каталіцкія**: Алены, Браніслава.

**19 жніўня**
**Праваслаўныя**: Спас (Перамяненне Гасподняе).
**Каталіцкія**: Баляслава, Юльяна, Яна.

**20 жніўня**
**Праваслаўныя**: Мітрафана.
**Каталіцкія**: Бярнарда.

**21 жніўня**
**Праваслаўныя**: Леаніда.
**Каталіцкія**: Францішкі.

**22 жніўня**
**Праваслаўныя**: Марыі, Аляксея, Дзмітрыя, Івана, Лявона.
**Каталіцкія**: Марыі, Зігфрыда.

**23 жніўня**
**Праваслаўныя**: Рамана.
**Каталіцкія**: Ружы, Філіпа.

# Хто адкажа за няякасную рыбу?

**МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе сцвярджаюць, нібы здарыліся выпадкі атручвання людзей і хатніх жывёл пасля спажывання рачной рыбы. Той самай, што прадаюць прыватнікі ля ўвахода на тэрыторыю калгаснага рынку. "Хто вінаваты", што там пастаянна стаяць гандляры не заўсёды свежым таварам?**



**У сераду некаторыя гандляры рачной рыбай стаялі на тэрыторыі калгаснага рынку ў Маладзечна.** Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

### У адміністрацыі калгаснага рынку

сказалі, што яны не адказныя за гандляроў па-за іхняй тэрыторыяй – гэта кампетэнцыя горада. Кантралёры не маюць права правяраць якасць іхняй прадукцыі. А ля ўвахода на рынак ідзе незаконны гандаль і з ім мусяць змагацца праваахоўчыя органы.

### У міліцыі

намеснік начальніка аддзела прафілактыкі ГРАУС **Уладзімір Глінскі** адказаў:

– Міліцыя не адказвае за якасць гэтай рыбы. Нашы работнікі могуць скласці пратакол за гандаль у неабсталяваным месцы. А правяраць якасць – не нашая кампетэнцыя. Гэта справа цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.

### У цэнтры гігіены і эпідэміялогіі

сітуацыю тлумачыць галоўны ўрач **Міхаіл Грабоўскі**:

– За парушэнне правілаў гандлю такіх прадаўцоў павінна штрафаць міліцыя. Мы не можам гэтым прыватнікам заламаць рукі.

Адказнасць у поўнай ступені, як відаць, не бярэ на сябе ніхто. Увесь цяжар кладзецца на спажыўцоў. Хаця і ў іх ёсць выбар: можна ісці па рыбу туды, дзе ёсць гарантыя. І, што немалаважна, на магазін ці рынак можна скласці скаргу ў выпадку, калі там прададуць тавар неналежнай якасці.

За больш танную пакупку ў праватніка можна заплаціць уласным здароўем. І скардзіцца не будзе на каго.

**Юрый КАРПІЦКІ, Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ НАШЫ ГРОШЫ

# Свой сярод сваіх

У апошні час многія задаюцца пытаннем, што ж будзе з маркамі, франкамі, песетамі, якія ёсць у некаторых беларусаў, з 1 студзеня будучага года, калі на тэрыторыі 12 краін еўрапейскага валютнага саюза будзе ўведзеная ў абарачэнне адзіная наяўная валюта – еўра.

Падстаў для боязі няма. Калі ў кагосьці і заваляліся грошыкі, што засталіся пасля вяртання з Еўропы ці падораныя багаценькай цёткай, не хвалюйцеся. Іх спакойна можна будзе абмяняць на новую валюту. Прычым, зрабіць гэта можна не толькі ў іх, на Захадзе, але і ў нас, у Беларусі.

У Еўропе паралельнае хаджэнне старых і новых грошай будзе захоўвацца толькі да 1 лютага наступнага года, баладзе цэны ў мясцовых валютах і ў еўра ўказваюцца ўжо больш за год. Банкі будуць прымаць старыя грошы яшчэ да канца года, а выдаваць будуць ужо толькі новыя, у магазінах і на вакзалах, у барах і кафэ прымацца будуць толькі еўра. Пазней функцыі прыёму і абмену купюр нацыянальных валют адыдуць да цэнтральных банкаў краін-удзельніц саюза, якія абавязаныя абменьваць іх на еўра на працягу 10–20 год, у залежнасці ад краіны. Больш складана з манетамі. Іх прыём да абмену павінен укласціся ў больш кароткі тэрмін – да канца 2002 года. Таму з абменам сантымаў і пфенігаў варта паспяшацца.

Не выязджаючы за мяжу, памяняць свае старыя грошыкі на пару-тройку (тысяч) еўра можна і ў нас. Нацыянальны банк Беларусі атрымаў спецыяльны дазвол на правядзенне падобных аперацый у Еўрапейскага цэнтрабанка. Ужо з 1 снежня нашыя банкі змогуць атрымліваць еўра і забяспечваць іх выдачу кліентам на камандзіровачныя патрэбы і аплату паслуг. Абмен старых звыклых грошай на новыя еўра нашы банкі здзяйсняць будуць, але з нейкай, хоць і маленькай, камісіяй. Так што можна і не спяшацца: а раптам самі надумаеце наведацца ў Венецыю і тады ўжо патраціце свае ліры. Адно дакладна: заплаціць звыклы для прадпрымальнікаў падатак у 55 еўра імі нельга.

Нашмат цяжэй пры пераходзе на новыя грошы давядзецца еўрапейцам. Многія з іх ужо цяпер занепакоеныя тым, куды б прыстроіць не зусім чыстыя даходы, таму што ценявая наяўнасць праз 4 месяцы стане марнай. Па ацэнках, ценявы рынак складае ад 7 да 16% ВУП (валавога ўнутранага прадукту) краін Еўрасаюза – гэта амаль 1 трыльён долараў, які хутка ўсплыве на паверхню. Абмену, як і ў нас у час паўлаўскай рэформы пачатку 90-х гадоў, належаць не ўсе грошы: у Іспаніі, напрыклад, свабодна абменьваецца сума, эквівалентная 14 тысячам долараў, астатнія – толькі з дэкларацыяй аб даходах. А плаціць падаткі не хочуць і там (відаць, дрэнна глядзяць нашую рэкламу). Улічваючы прагу еўрапейцаў, асабліва пажылых сялян, да накаплення, калі грошы захоўваюцца гадамі ў мяшках, абмяняць буйныя сумы будзе складана. Менавіта таму цяпер у Еўропе назіраецца будаўнічы бум: грошы проста ўкладаюцца ў нерухомасць. Другое месца ўкладання сродкаў – касметалогія і стаматалагічныя паслугі. Таму іспанкі і маладзеюць.

А ў цэлым, абмен можна толькі вітаць. Пераязджаючы з Аўстрыі, напрыклад, у Германію, ужо не трэба будзе зноў мяняць грошы і пры гэтым губляць на розніцы курсаў – будзе адна валюта. Уладальнікам картачак стане яшчэ прасцей: маючы картачку ў еўра, можна раз'язджаць па ўсёй Еўропе без праблем з абменам.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

■ ПРАГНОЗ

# Пасля 9-га

Многія падзеі эканамічнага і грамадска-палітычнага жыцця краіны гэтым летам так ці інакш звязаныя з 9 верасня. Многае арыентуецца на прэзідэнцкія выбары. Большасць рашэнняў пераносіцца на паслявыбарны перыяд – выконваць іх давядзецца новай старой уладзе.

Вось і місія МВФ, што скончыла на мінулым тыдні аналіз эканамічнай сітуацыі ў краіне, таксама прыбудзе да нас зноў ужо ў кастрычніку, пасля выбараў, для правядзення чарговага маніторынгу. Не ўдаючыся ў палітыку, паглядзім, што ж станецца пасля 9 верасня. Зразумела, прыйдзе і 10, але што будзе ў цэлым у кастрычніку-снежні 2001 года?

На жаль, прагноз далёкі ад аптымізму. Сацыялістычныя метады кіравання і адсутнасць рэальных рэформаў доўгія гады даюць пра сябе знаць. Вытворчасць хаця і расце, але прадукцыя застаецца на складах. Продажы падаюць – 50 тысяч тэлевізараў, 70 тысяч халадзільнікаў, мора сыроў, гарэлкі і піва ляжаць на складах. Арыентацыя на збыт у Расію ўжо сябе не апраўдвае: суседзі пасля крызісу 1998 года ўжо апраівіліся, уклалі грошы ў вытворчасць і цяпер выпускаюць больш танную і якасную прадукцыю, чым мы. У Беларусі ж інвестыцыі зведзеныя практычна да нуля, таму і купляюць нашыя піўныя заводы расіяне. Самі мы іх не падымем.

У краіне няма рэформаў: ні фінансавай, ні структурнай, ні нават камунальнай. Першым вынікам паслявыбарнага перыяду стане адмаўленне ад нізкіх папулісцкіх тарыфаў і рэзкі рост кошту паслуг.

Падаражэе практычна ўсё: ад прадуктаў харчавання да платы за праезд. Інфляцыя паб'е старыя рэкорды і зноў у Беларусі будзе самы высокі рост цэнаў сярод краінаў СНД.

Абяцаныя прэзідэнтам 100 долараў кожнаму работніку – адно, але забяспечыць гэты рост заработнай платы рэальным ростам і эфектыўнасцю вытворчасці – іншае. Выпадкі, як ліпеньскае знікненне цукру, ужо будуць паўсюдныя. Ну, здымуць чарговых трох чыноўнікаў.

Заліхаманіць фінансавы рынак. Падаткі і так ужо плаціць няма каму, палова прадпрыемстваў стратная, абаротных сродкаў у эканоміцы няма. Наша краіна – адзіная ў свеце, дзе бяруць (і даюць!) крэдыты пад выдачу заработнай платы. Пазычанае прадпрыемствам вярнуць будзе няма чым. Яны даўно сядзяць на гэтай іголцы, і дапамагчы можа толькі рэструктурызацыя.

Неплацяжы і праблемы ў банкаўскай сферы прывядуць да валютнага крызісу. І раптоўна галоўнае дасягненне фінансавых уладаў – стабільны курс рубля – можа пайсці марна. І хаця ў яго сіле не сумняваецца (афіцыйна) толькі кіраўнік Нацбанка, аптымізму гэта не надае. Народ возьмецца здымаць, ратуючыся ад інфляцыі, свае рублёвыя зберажэнні з рахункаў у банках і канверсаваць у валюту, што непазбежна дадаткова паўплывае на курс рубля. І добра, калі ён апынецца толькі на ўзроўні 2000 рублёў за долар, а не на запланаваных 1600 рублях.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 9 жніўня | 16 жніўня |
|---|---|---|
| Долар | 1432,00 руб. | 1436,00 руб. |
| Нямецкая марка | 640,47 руб. | 664,76 руб. |
| Літ | 357,95 руб. | 359,00 руб. |
| Расійскі рубель | 48,85 руб. | 48,95 руб. |
| Злоты | 339,90 руб. | 336,97 руб. |
| ЕЎРА | 1252,64 руб. | 1300,15 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1450 – 1470 руб. | 1460 – 1480 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 8.08 | 15.08 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2200 | 2400 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 8140 | 7980 |
| Сасіскі, 1 кг | 3100 | 3100 |
| Селядзец, 1 кг | 1650 | 1720 |
| Рыс, 1 кг | 530 | 530 |
| Грэчка, 1 кг | 430 | 410 |
| Цукар, 1 кг | 646 | 646 |
| Алей, 1 л | 880 | 890 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 500 | 500 |
| Маянэз, 200 г | 270 | 270 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1600 | 1600 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 500 | 520 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 400 | 420 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 550 | 350 |
| Капуста, 1 кг | 300 | 300 |
| Агуркі, 1 кг | 500 | 700 |
| Памідоры, 1 кг | 900 | 650 |
| Лімоны, 1 кг | 1700 | 1650 |
| Апельсіны, 1 кг | 1550 | 1600 |
| Кавуны, 1 кг | 300 | 350 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1200 | 1200 |
| Масла, 1 кг | 2400 | 2400 |
| Тварог, 1 кг | 900 | 800 |
| Малако, 1,5 л | 400 | 350 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | 900 |
| Бульба, 1 вядро | 1600 | 1600 |
| Морква, 1 кг | 350 | 450 |
| Брусніцы, малое вядро | 4500 | 4000 |
| Слівы, малое вядро | 3000 | 2000 |
| Яблыкі, 1 кг | 200 | 200 |

# Пустыя бутэлькі ва ўрадзе

Нядаўна пры Міністэрстве эканомікі стварылі рабочую групу. Месяц яна будзе адпрацоўваць механізм адмены залогавага кошту тары (пустой бутэлькі).

Па розных дадзеных, да 40% спіртных напіткаў завозіцца ў Беларусь з-за мяжы. А наша прамысловасць, аказваецца, здольная купляць роўна столькі тары, колькі папярэдне аддае ў продаж. Уявіце, такім чынам, колькі пустых бутэлек мы не зможам здаць у прынцыпе.

Таму і з'явілася прапанова ўключыць кошт тары ў сабекошт напітка. Прыкладам, у суседняй Расіі дзе-нідзе так і робяць. Пацерпяць шматлікія бабкі-збіральшчыцы ды бамжы, якія і кормяцца, у асноўным, з пустой тары.

**Сямён РАБІНОВІЧ.**

# Другі прыватны рынак

**СМАРГОНЬ. Прадпрымальніку Аляксандру Багдзевічу райвыканком адвёў участак зямлі плошчай 0,8 га для будаўніцтва прыватнага рэчавага рынку.**

А. Багдзевіч ужо мае ва ўласнасці харчовы рынак. Рэчавы размесціцца ва ўсходнім мікрараёне горада. Прадпрымальніку патрэбна зацвердзіць праектную дакументацыю і тады райвыканком можа даць дазвол непасрэдна на будаўніцтва.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**

■ СПАЖЫВЕЦ

# Адукацыя па радыё

Пасля ўвядзення дэкрэта №12 большасць прадаўцоў адмаўляецца выдаваць пакупнікам чэкі. За што расплачваюцца спажыўцы, калі тавар аказваецца няякасным.

Па ініцыятыве Маладзечанскай гарадской арганізацыі па абароне правоў спажыўцоў прадпрымальнікаў выклікалі ў гарвыканком і тлумачылі, што яны парушаюць заканадаўства ў тым выпадку, калі не выдаюць чэк.

У "Правілах гандлю на рынках РБ" (артыкул 17), "Асноўных правілах рознічнага гандлю РБ" (артыкул 38), законе "Аб абароне правоў спажыўцоў" (артыкул 8), Грамадзянскім Кодэксе (артыкул 463) і дэкрэце №12 (пункт 5) гаворыцца, што здзелка па куплі-продажы лічыцца сапраўднай толькі пасля таго, як спажывец атрымае чэк. Гэты дакумент неабходна выдаваць незалежна ад таго, патрабуе яго спажывец, ці не.

З мінулага тыдня па радыё на рэчавым рынку два разы на дзень чытаюць зварот гарвыканкома до прадпрымальнікаў. У ім сцвярджаецца пра неабходнасць выдаваць чэкі. І яшчэ два разы штодня цытуюцца ўсе вышэйзгаданыя артыкулы. Падобная акцыя плануецца і на калгасным рынку.

Прадпрымальнікаў-парушальнікаў чакае пакаранне да пазбаўлення месца на рынку ці ліцэнзіі на гандаль.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

**Выбары-2001**



**Да выбараў прэзідэнта засталося 23 дні**

■ ГОЛАС НАРОДА («ГАРАЧЫ» ТЭЛ. 69667)

## Спрэчкі па «адзіным»

**Вячаслаў, будаўнік, Маладзечна:**

*Адзіным дэмакратычным кандыдатам я абраў бы Домаша. Хаця б таму, што ён маладзейшы за Ганчарыка.*

*Але адзначу, што людзі слаба ведаюць і аднаго, і другога. Мяркую, шанец перамагчы ў адзінага дэмакратычнага кандыдата ёсць.*

■ ЖАНОЧЫ РУХ

## Правы жанчын

**СМАРГОНЬ. У суботу прайшла канферэнцыя "Дэмакратыя і правы жанчын". Яе праводзілі ўдзельніца жаночага дэмакратычнага руху Людміла Пеціна і член Савета Рэспублікі, доктар псіхалагічных навук Надзея Цыркун.**

На канферэнцыі прысутнічалі прадстаўніцы жаночых грамадскіх аб'яднанняў, жансаветаў з прадпрыемстваў Смаргоні. Гаварылі пра правы і праблемы жанчын. У выніку размовы ўдзельнікі канферэнцыі прыйшлі да высновы: у Беларусі існуе дыскрымінацыя па палавым прызнаку.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**

■ СУДЫ

## 15 год

**ГРОДНА. Завяршыўся судовы працэс па справе аб забойстве 10 сакавіка ўрача Гродзенскай абласной клінічнай бальніцы.**

18-гадовай жыхарцы вёскі Пяршаі Валожынскага раёна **Святлане Івашцы** Гродзенскі абласны суд вынес пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на 15 год у калоніі строгага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

Забойства дзяўчына ажыццявіла ва ўласным гаражы ўрача пасля сумеснага ўжывання спіртных напояў. Яна некалькі разоў ударыла мужчыну па галаве бутэлькай, а пасля задушыла гальштукам. З гаража злачынца вынесла швейцарскі гадзіннік, партаманет, сотавы тэлефон, магнітолу, аудыёкасеты.

На судзе Святлана Івашка патлумачыла свае дзеянні тым, што вымушаная была абараняцца. Аднак суд палічыў гэтыя тлумачэнні неабгрунтаванымі і вырашыў, што яны супярэчаць доказам, атрыманым у ходзе следства. У выніку дзяўчыну асудзілі па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса Беларусі – «насілле з мэтай заваладання маёмасцю з нанясеннем цяжкіх цялесных пашкоджанняў», «крадзеж афіцыйных дакументаў» і «наўмыснае забойства, спалучанае з разбоем».

**Па матэрыялах БелаПАН.**

■ ВЫБАРЫ "РГ"

## Наперадзе Домаш і Ганчарык

**Амаль адначасова з рэгістрацыяй кандадатаў у прэзідэнты завяршалася гульня "РГ" у выбары.**

Гэта была менавіта гульня, бо якія б лічбы не былі, усё адно немагчыма паказаць аб'ектыўную сітуацыю перад выбарамі. Па-першае, у нас для гэтага было мала галасоў, па-другое, тэлефанавалі толькі чытачы "РГ", па-трэцяе, самая актыўная частка з іх. А гэта, зразумела, далёка не ўвесь электарат.

Таму, напрыклад, перамога ў трэцім туры нашай гульні **Уладзіміра Ганчарыка** над **Аляксандрам Лукашэнкам** з лікам 16:0 азначае толькі тое, што "адзіны" кандыдат можа атрымаць у Маладзечне не менш, як 16 галасоў.

**СямёнДомаш** перамог **Сяргея Гайдукевіча** - 14:0.

Абсалютным пераможцам у нашай гульні стаў Сямён Домаш, які набраў больш за ўсіх галасоў. Другім на фініш прыйшоў Уладзімір Ганчарык, які саступіў у асабістай сустрэчы толькі Домашу. Трэцім стаў Сяргей Гайдукевіч. На яго рахунку перамога над Аляксандрам Лукашэнкам. І замкнуў "турнірную табліцу" дзеючы прэзідэнт, у якога перамог няма.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Акцыя інфармавання

**ВІЛЕЙКА. У нядзелю ў горадзе прашла акцыя – «ланцуг неабыякавых людзей».**

Ля ўваходу на гарадскі рынак стаялі людзі з фотаздымкамі скрадзеных, загінулых, рэпрэсіраваных вядомых жыхароў Беларусі. Моладзь раздавала газеты. Віляйчане бралі іх, разглядалі людзей на фотаздымках. Іншыя без усялякага інтарэсу праходзілі міма.

Пасля з'яўлення супрацоўнікаў правапарадку ў грамадзянскім частка людзей адмовілася ад удзелу ў акцыі. Хаця гараджане, якія хацелі мець інфармацыю, яе атрымалі.

**Уладзімір МАЛЯРЧУК.**



Фота Ігара МАРОЗА.

Газеты раздае Андрэй Шупляк.

■ СМІ

## Пазнаў сябе

### З аўтара «Новой газеты Сморгони» спаганяюць паўтара мільёна за фразу пра сукінага сына

У столькі ацаніў маральны ўрон, які яму быццам бы нанесла сваёй публікацыяй "Новая газета Сморгони", старшыня смаргонскай раённай выбарчай камісіі **Уладзімір Касакоўскі**.

21 чэрвеня 2001 у №49 гэтай гарадской газеты гараджанін **Валеры Батурын**, гаворачы ў сваёй публікацыі "Разгул демократии" аб парушэннях, дапушчаных пры фарміраванні тэрытарыяльных выбарчых камісій, задаўся пытаннем:

"Как мог исполком своим решением №446 от 8.06.2001 г. в 9 часов 40 минут включить своим представителем в состав комиссии человека, "подмочившего" свою репутацию ещё на прошлых выборах в Палату представителей (был уличён двумя кандидатами в депутаты практически в клевете – дело не дошло до суда). На ум приходит бессмертная фраза: "Да, он сукин сын, но это – наш сукин сын".

У гэтай цытаце гараджанін У. Касакоўскі пазнаў сябе, бо толькі ён адзін з'яўляецца прадстаўніком выканкома ў выбарчай камісіі.

Уладзімір Касакоўскі, які працуе намеснікам генеральнага дырэктара вытворчага аб'яднання "Смаргонскі завод аптычнага станкабудавання", у заяве ў суд Смаргонскага раёна піша: "Батурын прымяніў адносна мяне выраз "сукін сын", чым нанес мне абразу".

Пан Касакоўскі патрабуе прыцягнуць да адказнасці Валерыя Батурына, абавязаць яго апублікаваць у газеце абвяржэнне інфармацыі, выкладзенай адносна п. Касакоўскага, прынесці яму праз "Новую газету Сморгони" публічнае прабачэнне, у парадку частковай кампенсацыі нанесенага маральнага ўрону выплаціць паўтара мільёна рублёў. Акрамя таго, сцвярджае заяўнік, адной з абавязковых умоў паспяховай работы на пасадзе намесніка генеральнага дырэктара прадпрыемства па кадрах і інфармацыйна-выхаваўчай рабоце з"яўляецца "наяўнасць аўтарытэта у выконваючага гэтыя абавязкі", павагі да яго з боку членаў калектыву. А менавіта супраць гэтага накіраваная публікацыя В. Батурына, г.зн., яго артыкул перашкаджае выкананню мной належным чынам службовых абавязкаў".

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

■ ВЫБІРАЙ

8 і 9 жніўня ў Маладзечне ў рамках кампаніі "Выбірай" прайшоў футбольны турнір. У ім узялі ўдзел 12 дваровых камандаў з усяго горада, узрост удзельнікаў ад 14 да 25 год. Пад час турніру актывісты кампаніі раздавалі каляндарыкі з запрашэннем прыйсці на прэзідэнцкія выбары. Перамогу атрымалі хлопцы з 6-га мікрараёна. Другое месца за камандай "Спартак" з Вялікага Гасцінца, трэцяе – за "Парашкамі". Пераможцы атрымалі прызы і былі запрошаныя на рэгіянальны турнір, які адбудзецца 19 жніўня ў Маладзечне.

**Па матэрыялах інфармацыйных агенцтваў.**

**Анонс**

**У рамках мабілізацыйный кампаніі "Выбірай" з 21 па 25 жніўня ў нашым рэгіёне будзе ладзіцца 5-дзённы велатур, які пройдзе па Валожыншчыне, Маладзечаншчыне, Вілейшчыне і Мядзельшчыне. Акцыю ладзяць маладзёжныя дэмакратычныя арганізацыі. Жадаючыя далучыцца да вандроўкі, тэлефануйце па нумары 6-94-67 (Алесь) або 5-03-31 (Ігар) у Маладзечне.**

■ МЕРКАВАННЕ

## Запаветныя 100 доляраў

**МАЛАДЗЕЧНА. Цэнтр занятасці насельніцтва канстатуе, што за 7 апошніх месяцаў на заводах горада і раёна паступова ідуць скарачэнні.**

Начальнік аддзела рынку працы **Наталля Мікулік** расказала, што час ад часу, бывае, ці не штотыдзень прамысловыя ўстановы дасылаюць звесткі, што ў хуткім часе будуць скарачаць рабочы персанал.

Паказваецца лічба. Прыкладам, 3 чалавекі. На першы погляд, нічога жудаснага. Але на рэфрыжыратарным дэпо не працуюць ужо 139 чалавек, на "Спадарожніку" – 108, на "Электрамодулі" – 91. Спіс можна працягваць.

Лічбы ўражваюць. А прычына? Мо, таму, што з кожным днём набліжаецца той час, калі рабочыя павінны атрымаць заработную плату ў памеры 100 доляраў. Адкуль іх узяць на прадпрыемстве? Магчыма, трэба скараціць штат. Калі гэта сапраўды так, то навошта тады бяздумная гонка за лічбай 100?

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ МОЛАДЗЬ

## ЗУБР знаходзіць агульную мову з людзьмі

**МАЛАДЗЕЧНА. Тыдзень таму некалькі мясцовых ЗУБРоў завіталі ў прыёмную начальніка ГРАУС С. Кухарчыка.**

Сакратарка далажыла пра іхні прыход, начальнік згадзіўся прыняць гасцей. Галоўны міліцыянер горада пагаварыў з юнакамі, выказаў ім свае заўвагі, прыняў у падарунак для ГРАУС кнігу. А ў аўторак колькі дзесяткаў ЗУБРоў прыйшлі ў клуб «Рыф» на канцэрт групы «Нейра Дзюбель». На гэты раз не абышлося без эксцэсаў. Міліцыянер, што дзяжурыў на канцэрце, спрабаваў адабраць у аднаго з юнакоў майку, што сфатаграфаваў другі.

Абодвух затрымалі і павялі ў бліжэйшы інтэрнат, каб патэлефанаваць у дзяжурную часць і выклікаць машыну. Падтрымалі сваіх сяброў яшчэ каля 20 чалавек. Яны запатрабавалі адпусціць затрыманых, у адваротным выпадку гатовыя былі таксама ехаць у дзяжурную часць.

Затрыманых, урэшце, адпусцілі. Майку і фотаапарат вярнулі. Юнакі скандзіравалі «Слава беларускай міліцыі» і вярнуліся на канцэрт.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ ПАДАТКІ

## Ад старшыні камітэта

**МАЛАДЗЕЧНА. У пятніцу старшыня падатковага камітэта Беларусі Канстанцін Сумар правёў сустрэчу з кіраўнікамі прадпрыемстваў, прадпрымальнікамі, работнікамі выканкома, дзе адказваў на пытанні, звязаныя з падаткамі.**

К. Сумар прызнаў, што пры падрыхтоўцы дэкрэта №12 (аб увядзенні адзінай падатковай стаўкі для прадпрымальнікаў), не ўсё ўлічылі. І, пасля падрабязнага вывучэння сітуацыі, у дэкрэце, магчыма, спатрэбяцца змены. Але адзіная падатковая стаўка застанецца. Можа змяніцца яе памер.

У мінулым нумары мы пісалі аб прапанове прадпрымальнікаў у рашэнні праблем з пустой шклатарай. Яны хочуць, каб раз'ядналі падатак на піва і цыгарэты. Старшыня падатковага камітэта адказаў, што не бачыць вялікай праблемы. Няхай гарвыканком падасць адпаведнае хадайніцтва ў аблвыканком. і дэпутаты аблсавета на бліжэйшай сессіі павінны зняць гэтае пытанне.

Яшчэ К. Сумар закрануў пытанні палітыкі краіны ў галіне падаткаабкладання. Галоўная задача – зніжэнне падатковага ціску. Цяпер па прамысловаці доля падаткаў з выручкі складае 16,1% (паўгода таму яна была 17,5%). План – выйсці на 14,5-15%. Увогуле, па словах Канстанціна Сумара, патрэбна ўсе падаткі браць з прыбытку, як і ва ўсім цывілізаваным свеце. У Беларусі значная доля падаткаў бярэцца з выручкі.

Наконт падаткаў з прыбытку галоўная задача ў бліжэйшы час – уніфікаваць беларускае і расійскае заканадаўства. У расіян падатковая стаўка з прыбытку 24%, у Беларусі цяпер – 30%.

Яшчэ прысутныя задалі прыватныя пытанні па падаткаабкладанні. Некаторыя атрымалі вусны адказ, а з больш складанымі пытаннямі К. Сумар паабяцаў разабрацца пазней і адказаць на іх пісьмова.

Прыкладна праз паўгода ён мяркуе зноў прыехаць у Маладзечна і правесці падобную сустрэчу.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Асноўныя правы, абавязкі і адказнасць членаў выбарчых камісій

У час выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, акрамя Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў, дзейнічаюць тэрытарыяльныя (раённыя і гарадскія) і ўчастковыя камісіі. У іх склад уключаецца 9-13 чалавек.

Рашэнні камісій па пытаннях, звязаных з правядзеннем выбараў, абавязковыя для выканання ўсімі дзяржаўнымі органамі, палітычнымі партыямі, грамадскімі аб'яднаннямі, прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі і грамадзянамі.

Камісіі павінныя інфармаваць выбаршчыкаў пра сваю работу па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў (арт. 13 Выбарчага Кодэкса). Прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі і назіральнікі маюць права прысутнічаць на ўсіх пасяджэннях камісій і ў памяшканнях для галасавання.

Асноўныя правы членаў камісій:

- уключаць у парадак дня пасяджэння камісіі прапановы па пытаннях, якія ўваходзяць у кампетэнцыю камісіі;
- выступаць на пасяджэннях камісіі і патрабаваць правядзення галасавання па ўключаных прапановах;
- задаваць удзельнікам пасяджэння пытанні ў адпаведнасці з парадкам дня і атрымліваць на іх адказы па сутнасці;
- азнаёміцца з дакументамі і матэрыяламі камісіі, у склад якіх яны ўваходзяць, і ніжэйстаячых камісій.

Асноўныя абавязкі членаў камісіі:

- прытрымліваца Канстытуцыі, выконваць патрабаванні Выбарчага Кодэкса і іншых актаў заканадаўства Рэспублікі Беларусь;
- не ўчыняць дзеянні, якія дыскрэдытуюць камісію;
- удзельнічаць у пасяджэннях камісіі, а ў выпадку немагчымасці ўдзелу ў пасяджэннях – паведаміць пра гэта кіраўніцтву камісіі;
- браць удзел у падрыхтоўцы пасяджэнняў камісіі і праводзімых камісіяй праверак;
- выконваць рашэнні камісіі, даручэнні камісіі і яе кіраўніцтва.

Рашэнні і дзеянні камісіі могуць быць абскарджаны ў вышэйстаячую камісію альбо ў суд.

У адпаведнасці з артыкулам 192 Крымінальнага кодэкса падробка дакументаў па выбарах, ці парушэнне тайны галасавання, ці свядома няправільны падлік галасоў, альбо іншае скажэнне вынікаў галасавання, здзейсненыя членам выбарчай камісіі, караюцца штрафам, альбо пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады, альбо займацца пэўнай дзейнасцю, альбо папраўчымі работамі на тэрмін да двух год, альбо абмежаваннем свабоды на тэрмін да пяці год, альбо пазбаўленнем свабоды на той жа час.

**Аляксей ХВОСЦІК, юрыст.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

# Мацюк вярнуўся

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні распачалі перадсезонную падрыхтоўку гульцы "Металурга".**

Чэмпіянат стартуе напачатку кастрычніка. У верасні мяркуецца узяць удзел у турнірах памяці журналіста **Аляксандра Майскага** і славутага гульца мінскага "Дынама" **Аляксандра Пракапенкі**. Напярэдадні старту афіцыйнага сезона плануецца арганізаваць у Маладзечне ўрачыстую вечарыну з нагоды леташняга бронзавага поспеху.

Што тычыцца падрыхтоўкі на працягу жніўня, то быў магчымы выезд на двухтыднёвы збор у Сакі (Крым), аднак ён сарваўся з-за павышэння цэнаў на паслугі тамтэйшай базы. Цяпер на трэніроўках (пакуль мінчане і маладзечанцы займаюцца асобна пад кіраўніцтвам адпаведна **Сяргея Сафонава і Віталя Казяка**) працуюць 17 чалавек. Стратаў у складзе няма і не прадбачыцца, але вярнуўся **Віталь Мацюк**, які мінулы сезон правёў у "Хеміксе".

22 жніўня Асацыяцыя мініфутбола правядзе нараду з удзельнікамі чэмпіянату вышэйшай лігі. Сёлета павышаны ўступны ўзнос, што можа скараціць колькасць каманд.

Па-ранейшым будзе фармклубам мінскі ВСОШ-21. Што тычыцца падрыхтоўкі рэзерву на Маладзечаншчыне, то неабходнага фінансавання для гэтага няма. Праўда, магчымы варыянт, калі Асацыяцыя міні-футбола са згоды Беларускай федэрацыі футбола абавяжа моцныя клубы мець свае дзіцячыя школы.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ КУБАК БЕЛАРУСІ

# Адшукалі шчасце ў пасляматчавых пенальці

**15.08 Смаргонь – Керамік (Бяроза) 4:2 (па пенальці; 0:0 у асноўны і дадатковы час)**

**«Смаргонь»**: Шэлест, Іваноў, Шагойка, Курак, Пагоцкі, Шпілеўскі, Дукса, Селіванаў, Дзігілевіч (Паркулевіч, 75), Кошаль (Шаблінскі, 65), Шпакоўскі (Карабінскі, 108).

**Пенальці**. 1:0 (Пагоцкі), 1:1, 2:1 (Іваноў), 2:1 (Шэлест парыраваў), 2:1 (Паркулевіч не забіў), 2:1 (сапернік ударыў у перакладзіну), 3:1 (Селіванаў), 3:2, 4:2 (Курак).

Смаргонцы гулялі на вынік, бо разумна палічылі, што галоўнае парадаваць сваіх балельшчыкаў перамогай над больш моцным (па статусе) сапернікам і выйсці ў наступны раунд. Як заўсёды, каля 3 тысяч гледачоў цалкам запоўнілі трыбуны.

У 1/16 26 жніўня гуляць давядзецца зноў дома, але ўжо супраць прадстаўніка вышэйшай лігі альбо нейкай з тых каманд першай лігі, што былі вызваленыя ад матчаў стартавага раунда.

"Керамік" і летась прыязджаў на кубкавую сустрэчу ў Смаргонь ды гэтаксама быў абыграны. Цяпер бярозаўцы жадалі пaквітацца за тое паражэнне, і відавочна засмуціліся пасля матча.

Гаспадары дзейнічалі строга ад абароны па схеме 5-3-2. Іваноў удала згуляў персанальна супраць небяспечнага нападаючага Курыловіча, а потым і супраць Шведа, які выйшаў на замену.

Уся каманда гаспадароў як след выканала трэнерскую ўстаноўку скіраваць усю ўвагу, у першую чаргу, на абарону ўласных варот. У атацы паўмоманты былі, Кошаль нават гол забіў напачатку матча, але суддзя зафіксаваў у яго дзеяннях парушэнне правілаў.

Фізічных кандыцый смаргонцам хапіла і на асноўны, і на дадатковы час. Надзеі адшукаць шчасце ў пасляматчавых пенальці спраўдзіліся найлепшым чынам. Серыя завяршылася датэрмінова – апошні ўдар гасцям дапамагчы ўжо не мог.

# Лік адлюстраваў розніцу ў класе каманд

**15.08 Забудова – Граніт (Мікашэвічы) 0:2 (0:1)**

**Галы**: Кірылка (31, 68).

**"Забудова"**: Ан. Канапелька, Івашкевіч, Д. Мятліцкі, Ал. Канапелька, М. Мятліцкі, Балыкін (В. Ваўчок, 46), Міраповіч, Садчанка, Татун (Бяспалы, 73), Чарнель, Саковіч (А. Урублеўскі, 33).

Абноўленаму мясцовымі маладзечанскімі (раённымі і гарадскімі) гульцамі складу чысцінцаў супрацьстаяў сапернік, які летась у матчы чэмпіянату першай лігі на гэтым жа стадыёне на роўных змагаўся з ФК "Маладзечна". У складзе гасцей шмат вядомых нават па вышэйшай лізе (са складу "Забудовы" досвед выступленняў там мае толькі В. Ваўчок) імёнаў. Чаго каштуе адзін Кірылка, які адзначыўся ў справаздачнай сустрэчы двума ўзяццямі варот. Ён у свой час выступаў у брэсцкім "Дынама", і запомніўся талентам забіваць вельмі прыгожыя галы.

Так, прыкладам, як зрабіў гэта па завяршэнні паўгадзіны матча ў Чысці. Пасля навесу са стандартнага становішча з правага краю мяч няўдала адбілі абаронцы "Забудовы" і ён завіс у паветры. Кірылка знаходзіўся ля левага кута штрафной, згрупіраваўся і ўдарам злету ў падзенні па мячы, што высока ляцеў (падобна да ўдару праз сябе, аднак выкананым неяк бокам) паразіў далёкую дзевятку варотаў Андрэя Канапелькі.

Да гэтага па небяспечных момантах гульня ішла роўная. Найбольш спрыяльную ў матчы магчымасць забіць гасцям гол стварыў недзе на 13 хвіліне сам сабе Міраповіч. Ён працягнуў мяч па правым краі, увайшоў у штрафную, абыграў двух абаронцаў і, не збліжаючыся з варатаром, ударыў. На жаль, крыху міма далёкай штангі.

Страціўшы стартавую свежасць ды прапусціўшы гол, "забудоўцы", у асноўным, клапаціліся пра абарону ўласных варотаў. Канапелька не раз і не два выратоўваў каманду, не даваў саперніку забіць ні далёкімі дакладнымі ўдарамі, ні пры выхадах сам-насам.

Яскрава праяўлялася перавага "Граніта" у сярэдняй лініі. Адна з хуткіх атак з дакладнай перапасоўкай прывяла да другога гола. Мікашэвіцкі футбаліст справа ўвайшоў у штрафную, але не стаў абыгрываць галкіпера, а адпасаваў свабоднаму Кірылку. Яму заставалася толькі закаціць мяч у вароты.

"Забудова" не імкнулася адседзецца ў абароне, увесь матч дзейнічала з двума нападаючымі, а пры ліку 0:2 на поле выйшаў трэці форвард, 16-цігадовы Бяспалы. Менавіта яму падчас контратакі партнёры стварылі самы небяспечны момант, каб забіць гол прэстыжу. Але юнак, выходзячы сам-насам з варатаром, далёка адпусціў ад сябе мяч, калі прымаў пас, і не паспеў прабіць.

У складзе "Забудовы" не горш за іншых дзейнічаў М. Мятліцкі (гуляў апошнім абаронцам), якому хутка ўжо споўніцца 41 год. І нельга сказаць, што, напрыклад, Татун, Чарнель ці Д. Мятліцкі, якія яшчэ год-два назад лічыліся вельмі перспектыўнымі гульцамі, прынеслі на полі больш карысці, чым начальнік каманды.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**«Смаргонь» і «Забудова» у чарговы раз высвятляюць, якімі шляхамі ісці далей. Смаргонцы Вадзім Максіменка (№6) і Віталь Відук (у цэнтры) выйшлі ў 1/16 фіналу Кубка краіны, а чысцінцу Мікалаю Татуну (справа) з партнёрамі застаецца засяродзіць увагу толькі на чэмпіянаце.**

## Табло

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

**У канадскім Манрэалі завяршылася сусветнае першынство лёгкаатлетаў, што праводзіцца раз на два гады. Ураджэнец Маладзечна дыскабол Васіль Капцюх заняў шостае месца з вынікам 66 метраў 25 сантыметраў.**

Летась на Алімпіядзе ён быў чацверты, калі таксама адправіў снарад у наваколле на 66 метраў. Стабільнасць нашага 35-гадовага земляка выклікае павагу, тым больш што сярод беларусаў ён лепшы.

Паказаныя вынікі ў далёкасці кідкоў для яго адныя з лепшых у кар'еры, хаця, ён паспеў стаць бронзавым прызёрам ЧС-95 і Алімпіяды-96. На жаль, канкурэнты ўсё большай групай падбіраюцца да 70-метровай адзнакі.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ

**МАЛАДЗЕЧНА. У пачатку жніўня каманда "Сябрына" перамагла ў міжнародным турніры, які праходзіў у нямецкім горадзе Эслінгене.**

10 нямецкіх, турэцкая і беларуская каманда на папярэднім этапе былі падзеленыя на 4 групы. Вынікі папярэдняга этапа: "Сябрына" - "Tbruit" 3:0 (Янель-2, Галубко). "Сябрына" - "SV 1845 - Esslingen" 0:0.

У чвэрцьфінале маладзечанцы перамаглі туркаў - 2:0 (Галубко, Рысік). У паўфінале сустракаліся з маладзёжнай камандай. Гэта самая складаная гульня для беларусаў на турніры. Перамога 4:2 (Івашкевіч-2, Рысік-2). У фінале зноў сустракаліся з гаспадарамі. На гэты раз перамога - 1:0 (Сіткoвіч).

Каманда прывезла кубак, прызы і грашовую ўзнагароду. Прывезены камплект футбольнай формы ўвосень пааноўюць падарыць маладзечанскай ДЮСШ.



Фота з архіва Уладзіміра ГАЛУБКО.

**Капітан маладзечанскай футбольнай «Сябрыны» Уладзімір Галубко з кубкам за перамогу на турніры ў Эслінгене.**

У Германію ездзілі: Мялюк, Казяк, Янель, Макей, Рысік, С. Карыцька, Івашкевіч, Генадзь і Аляксандр Талькоўскія, Галубко, Сіткoвіч.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ДРУГАЯ ЛІГА

**12.08 Забудова – Гомель-2 3:2 (2:1)**

**Галы:** Д. Мятліцкі (2), Міраповіч (7, 78); (36-пен), (66).

Склад: Ан. Канапелька, А. Урублеўскі, Д. Мятліцкі, Ал. Канапелька, М. Мятліцкі, Балыкін, Міраповіч, В. Ваўчок (Саковіч, 40; Катлярэнка, 82), Татун (Фалей, 89), Чарнель (Кавальчук, 65), Івашкевіч (Бяспалы, 75).

| | |
|---|---|
| 1. Лакаматыў | 48 |
| 2. Вертыкаль | 43 |
| **3. Смаргонь (-1)** | **41** |
| 4. Баранавічы | 37 |
| 5. РВАР | 35 |
| 6. Пінск-900 | 32 |
| 7. СКАФ (-1) | 31 |
| **8. Забудова** | **28** |
| 9. Рудзенск | 26 |
| 10. Днепр | 26 |
| 11. Дынама-2 | 25 |
| 12. Гомель-2 | 25 |
| 13. Верас (-1) | 22 |
| 14. Старыя Дарогі | 22 |
| 15. Трактар (-1) | 16 |
| 16. Пр. рэзервы | 14 |
| 17. Палессе | 7 |
| 18. Змена | 3 |

У чысцінцаў працягваюцца кадравыя змены. У склад уведзеныя абаронца **Міхаіл Саковіч** (1976 года нараджэння; ужо выступаў у "Забудове") з "Беразінскага", мясцовы паўабаронца **Дзяніс Катлярэнка** (1985), нападаючыя **Аляксандр Грыхуцік** (1980) з дубля "Маладзечна-2000" і **Дзяніс Мацieўскі** з Радашковічаў. Вернуты ў склад **Татун**.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**5 жніўня, «Смаргонь» – «Забудова». Дэбютны матч Дзяніса Катлярэнкі.**

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## На гэтым тыдні гуляюць

**17.08, Беразінскае, 18-00, Маладзечна-2000 (дубль) – Дынама (Мінск, дубль)**
У першым крузе 1:4 (Млечка) на выездзе

**18.08 18-00 Маладзечна-2000 – Дынама (Мінск)**
+1=6-10 16-33. У першым крузе 1:3 (Турчыновіч) на выездзе
Падчас матча на стадыёне будзе прадавацца даведнік аб маладзечанскім футболе.
Балельшчыкі могуць набыць абанементы на ўсе дамашнія матчы "Маладзечна-2000" да заканчэння бягучага сезона па цане 4000 рублёў.

**19.08 Гомель-2 – Смаргонь**
+0=1-0 0-0. У першым крузе 0:0 дома

**19.08 Рудзенск – Забудова**
+1=0-0 1-0. У першым крузе 1:0 (Міраповіч) дома

